

увогуле адбою ад дзяўчат не было. Вахцёрка ў інтэрнаце скардзілася: «Табе столькі аднаму лістоў прыносяць, сколькі ўвесь астатні інтэрнат не атрымлівае!»

Пасля заканчэння інстытута Іван Федарцоў працаваў у Смаленску трэнерам, дырэктарам ДЮСШ. Быў старшым трэнерам вобласці па штанзе. Давялося папрацаваць і трэнерам у спартыўнай роце ва Уруччы. Сярод яго выхаванцаў — чэмпіёны і рэкардсмены свету, такія як Вячаслаў Камісараў, браты Рыбаконі. У камандзе былі заслужаны майстар спорту, чэмпіён свету Мікалай Костылеў, майстар спорту Аляксандр Карніенка. З 1970 года Іван Паўлавіч Федарцоў жыве ў Баранавічах. І тут падрыхтаваў дзесятка паўтара чэмпіёнаў і прызёраў рэспублікі па штанзе, двух майстроў спорту міжнароднага класа, чэмпіёнаў Паветраных Сіл. Працаваў трэнерам, старшынёй спартыўнага таварыства «Спартак», кіраваў фізічным выхаваннем у тэхналагічным тэхнікуме.

Што тычыцца помнікаў Гагарыну, то як ні імкнуліся скульптары пры жыцці касманаўта адлюстраваць яго ў бронзе ці хаця б у бетоне (Юрый Гагарын трагічна загінуў 27 сакавіка 1968 года), атрымалася гэта значна пазней. Так, да 10-годдзя палёта чалавека ў космас помнік Гагарыну было вырашана паставіць у горадзе Энгельсе Саратаўскай вобласці, недалёка ад месца прызямлення касманаўта. Там скульптарам пазіраваў таксама спартсмен, трэнер тамтэйшых гімнастаў Шыршоў. У тым жа 1971 годзе скульптуру ўсталявалі ў Доме піянераў, а праз 10 год перанеслі да Дома афіцэраў. У 1981 годзе яшчэ адзін Гагарын з'явіўся непасрэдна на месцы прызямлення. Ёсць і фігура касманаўта на пастаменце, усталяваная на Ленінскім праспекце ў Маскве напярэдадні Алімпіяды ў 1980 годзе. Фігура атлетычная, нібы ў палёце, з напружанымі, апушчанымі ўніз рукамі. Па словах Івана Паўлавіча Федарцова, скульптура, якую ляпілі з яго, «прызямлілася» якраз у Маскве.

Але не толькі ў былой сталіцы СССР стаяць помнікі першаму касманаўту. Ёсць яны ў расійскіх Калузе, Смаленску, Клушына, Люберцах, Таганрозе, Бранску. І яшчэ шмат у якіх іншых краінах, у тым ліку ў Чэхіі, Амерыцы, Індыі, Англіі, Узбекістане...

Цяпер Іван Паўлавіч на пенсіі. І ўзгадвае ён часам не толькі пра тое, як дабіваўся поспехаў у вялікім спорце, а і пра ваеннае дзяцінства. «Мама расказвала, як мяне немец на руках насіў, калі яе і бабулю забралі ў працоўны лагер, — успамінае ён. — Вязні тады вымушаныя былі працаваць на лесапавале, сельскагаспадарчых работах...»

Але Іван Федарцоў жыве не толькі ўспамінамі. Ён ізноў пры справах. Робіць людзям печкі, каміны, барбекюшніцы. Клаў нават печ у лазні аднаму з расійскіх міністраў на Рублёўцы.

А яшчэ (і гэтым Іван Паўлавіч займаецца найбольш часу) прапагандуе сістэму аздараўлення і займаецца сам. «Мой дзед пражыў 107 год, быў знахарам — гаворыць наш герой. — Лячыў людзей, жывёлу, бо меў моцную энергетыку». Бабуля Федарцова была траўніцай. Перажыўшы рэвалюцыі і войны, прайшоўшы праз нямецкі лагер, яна пражыла 96 год. Жанчына часта брала ўнука ў лес. А цяпер зёлкі збірае ён сам. Чай п'е толькі з траваў — бяссмертніку, зверабою, багуну. Але аздараўленне — гэта не толькі травы. У бібліятэчцы Івана Паўлавіча кнігі Раймонда Моўдзі «Жыццё пасля жыцця», Джона Кехо «Падсвядомасць можа ўсё». Федарцоў збірае і сістэматызуе матэрыялы, што тычацца Тыбету, Індыі. У яго выпрацаваныя свае сістэмы харчавання, дыхання і фізічных практыкаванняў. Можа таму ў свае 75 год ён ні разу не звяртаўся да дактароў, не выпіў ні адной пілюлі, не рабіў ніводнай прышчэпкі і ніколі не хварэў! І гэта пры тым, што заўсёды сярод людзей і ад інфекцый не застрахаваны. Федарцоў водзіць аўтамабіль. І калі ў 73 гады прыйшоў у клініку, каб прайсці медыцынскую камісію, там вельмі здзівіліся, што ў яго няма аніякай медыцынскай карткі. А яго сённяшняя мара — арганізаваць у горадзе спаборніцтвы па культурызму і ўзяць у іх удзел.



«Хутка праходзіць маладосць, хутка пройдзе і жыццё. Спыніць гэты працэс немагчыма, але замарудзіць — ў нашых сілах», — лічыць Іван Федарцоў.

# «БАЖны дзень»



Фота Валянціны Зянковай

Чарговы «БАЖны дзень» адбыўся на пачатку лютага. Пад час мерапрыемства новыя сябры пазнаёміліся з супрацоўнікамі цэнтральнага офіса, даведаліся пра гісторыю і традыцыі арганізацыі, яе партнёрскія сувязі, дасягненні, пра тое, якія сервісы БАЖ прадастаўляе сваім сябрам і чаго чакае ад іх.

Новых бажаўцаў заклікалі да ўдзелу ў творчым конкурсе «Вольнае слова», адукацыйных праграмах ды стварэнні карпаратыўнага часопіса «Абажур».











## Альгерд

(~1295 — май 1377) — вялікі князь літоўскі (1345—1377). Сын Гедзіміна.
У 1318 годзе ажаніўся з віцебскай княжной Марыяй і ў 1320 годзе пасля смерці віцебскага князя атрымаў яго княства ў спадчыну.
Калі ў 1341 годзе Гедзімін надзяляў сыноў, Альгерд да Віцебскага княства атрымаў Крэва і землі паабапал р. Бярэзіны.
У 1345 годзе разам з братам Кейстутам скінуў з віленскага стальца іншага свайго брата Яўнута, стаўшы вялікім князем.

Альгерд адбіваў наступ Тэўтонскага ордэна.
У 1342 годзе дапамог Пскову супраць немцаў, а яго сын Андрэй стаў пскоўскім князем. Паспяхова праводзіў палітыку аб'яднання зямель колішняй Русі ў адзінай дзяржаве — Вялікім княстве Літоўскім. Яшчэ ў бытнасць толькі князем віцебскім, дапамагаў Смаленску супраць Масквы. Далучыў да ВКЛ землі колішняга Чарнігаўскага княства (каля 1355).
Залежным ад яго было і Смаленскае княства.
У 1356, 1359 і 1362 гадах далучыў гарады Ржэў, Мсціслаў і Таропец.

У канцы 1362 года, пасля бітвы на Сініх Водах, далучыў да ВКЛ Падольскую, Валынскую і Пераяслаўскую землі, паўднёвае Падняпроўе, прычарнаморскія землі ў вусці Серата, басейнах Днястра і Паўднёвага Буга.
Пасадзіў удзельным князем у Кіеве свайго сына Уладзіміра, Падолле перадаў навагародскім князям Карыятавічам, войскі якіх складалі значную частку сіл у бітве на Сініх Водах.
У падтрымку цверскіх князёў здзейсніў тры паходы на Маскву (1368, 1370, 1372).
Спрабаваў падпарадкаваць сабе Пскоў і Ноўгарад, вёў барацьбу з Польшчай за Валынь, Падляшша і Галіцыю (1349—1351, 1366).
За яго часам тэрыторыя ВКЛ павялічылася больш чым у 2 разы.

Пражыў больш за 80 гадоў, кіраваў дзяржавай 32 гады.
Ад двух жонак — Марыі Віцебскай і Юліяніі Цверскай — меў 12 сыноў, у т.л. Ягайлу, Андрэя, Свідрыгайлу, Скіргайлу, Уладзіміра.